



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

3 красавіка 2015 года №14 **(1040)**




**У Вілейцы за карупцыю прыцягнулі тры службовыя асобы**

старонка 4



**Вольга Юзапчук, дзяўчына, якую знайшлі іншыя, цяпер шукае сябе**

старонка 20



**Маладзечанка ў батоне знайшла айфон, альбо Як “РГ” разыграла чытачоў**

старонка 3



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### У красавіку нас чакаюць працяглыя выхадныя

Радаўніца, якая прыпадае на аўторак, 21 красавіка, – гэта традыцыйны дзяржаўны выхадны. Працоўны дзень з панядзелка, 20 красавіка, пераносяць на суботу, 25 красавіка. Такім чынам, на Радаўніцу беларусы будуць адпачываць чатыры дні – ад суботы, 18 красавіка, да аўторка, 21 красавіка. Затое ў наступную суботу, 25 красавіка, прыйдзецца папрацаваць. Іншых пераносаў у красавіку не прадугледжана.

### Калі пройдуць Дні цвярозасці

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім раёне сёлета продаж алкагольных напояў абмяжоўваюць 16 красавіка, 21 мая, 18 чэрвеня, 16 ліпеня, 20 жніўня, 17 верасня, 15 кастрычніка, 19 лістапада і 17 снежня. Абмежаванне будзе дзейнічаць цэлыя суткі. Адпаведнае рашэнне прыняў Мядзельскі райвыканкам дзеля папулярызацыі здаровага ладу жыцця, прафілактыкі п’янства і алкагалізму. Выключэнне зробленае толькі для гандлю на разліў на аб’ектах грамадскага харчавання.

**Аддзел інфармацыі.**





# Начное жыццё Маладзечна спыняецца ў тры ночы

## Вілейка “спіць” у дзве, Смаргонь – у тры

МАЛАДЗЕЧНА

**Рашэнне скараціць час працы бараў і клубаў Маладзечна, якія зачыняліся ў пяць гадзін раніцы, прыняў райвыканкам.**

Ад чацвертага красавіка яны будуць зачыняцца ў тры. Пра гэта распавяла начальнік аддзела гандлю і паслуг Маладзечанскага райвыканкама **Ірына Крук**.

Такіх установаў у Маладзечне чатыры: дыскаклуб “Клаб”, дыскаклуб “Стэлс”, бар “Магніт” і “Нэо”.

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы начныя ўстановы зачыняюцца на гадзіну раней – у дзве гадзіны ночы. Такіх месцаў шэсць, сказала начальнік аддзела гандлю і паслуг Вілейскага райвыканкама **Аксана Сопрых**.

Да двух ночы яны працуюць пераважна ў пятніцу і суботу. У іншыя дні зачыняюцца раней.

СМАРГОНЬ

Установаў, якія ў пятніцу і ў суботу працуюць да трох гадзін ночы, у Смаргоні каля чатырох, распавялі ў аддзеле эканомікі райвыканкама. Іншыя зачыняюцца раней – у 12 ночы, гадзіну ці дзве.

Да пяці гадзін ночы клубы ці бары могуць працаваць, толькі атрымаўшы спецыяльны дазвол. Але для гэтага трэба шраг папер і дакладныя звесткі пра колькасць людзей.

**Настасся РОЎДА.**







Фота vk.com.

У маладзечанскіх клубах свята пагасне ў тры гадзіны ночы.

АФІЦЫЙНА

# Міліцыя тлумачыць, чаму раілі клубам зачыняцца раней

МАЛАДЗЕЧНА

**Начныя ўстановы ад 4 красавіка будуць працаваць да трох гадзін ночы.**

Прыняць такое рашэнне прапанавала маладзечанская міліцыя з шэрагу прычын. Па-першае, сёлетняя статыстыка злачынстваў у студзені гаворыць пра пагаршэнне крымінальнай сітуацыі ў цэлым. Калі летась быў 101 выпадак, то сёлета 127.

Прычым значна павялічылася колькасць здарэнняў у грамадскіх месцах, што можна бачыць у табліцы.



Слупок белага колеру – студзень 2014 года. Шэрага – студзень 2015 года. 1– забойствы, 2 – цяжкія цялесныя пашкоджанні, 3 – разбоі, 4 – рабаванні, 5 – хуліганства.

Дыяграма Настассі РОЎДЫ.

Па-другое, само знаходжанне на вуліцах нецвярозых – праблема, бо часта яны небяспечныя для жыхароў. Летась да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 3 909 чалавек. Сёлета за некалькі месяцаў – 300 чалавек, якія былі п'яныя ў грамадскіх месцах.

## Амаль усе здарэнні – пасля 3:00

Міліцыя пагаджаецца з тым, што трэба арганізоўваць забавы для моладзі ўвечары і ўначы. Гэта ўваходзіць у прафілактыку правапарушэнняў.

Дагэтуль у Маладзечне працавалі да пяці гадзін раніцы чатыры месцы, дзе ладзілі дыскатэкі.

Аднак з-за ўсё той жа статыстыкі і паведамленняў грамадзян пра парушэнні грамадскага парадку міліцыя лічыць, што такі час працы толькі шкодзіць. Дакладныя лічбы можна паглядзець у табліцы на першай паласе газеты.

Міліцыя заўважае, што амаль усе здарэнні адбыліся пасля трох гадзін ночы, калі большасць наведнікаў нападпітку. У гэты час пачынаюць прыязджаць маладыя людзі з устаноў, якія ўжо зачыніліся. Не толькі маладзечанскіх, але і Смаргонскіх, Вілейскіх, Валожынскіх.

## Некаторыя выпадкі ў клубах

Сёлета ўзбудзілі ўжо некалькі крымінальных спраў.

10 студзеня ў 3:30 ночы 31-гадовы мужчына ў "Стэлсе" стукнуў кулаком па галаве аднаму з наведнікаў.

Праз тыдзень, 18 студзеня, у "Клабе" 23-гадовы маладзён ля гардэроба ўдарыў у твар хлопцу.

Здараліся і выпадкі супраціўлення супрацоўнікам міліцыі, калі тыя затрымлівалі тусоўшчыка за адміністрацыйнае правапарушэнне.

## Пасля эксперымента "РГ"

Тры тыдні таму карэспандэнткі "РГ" наведалі тры начныя клубы горада. Наведнікі заўважалі, што лепш, каб клубы працавалі як мага даўжэй. Аргумент – "так хоць пад наглядам міліцыі і ахоўнікаў, інакш па дварах будуць хавацца і піць".

Сярод тусоўшчыкаў сапраўды былі наведнікі з іншых раёнаў. У прыватнасці – Вілейскага і Смаргонскага. У клубы маладыя людзі прыехалі яшчэ да 12 гадзін ночы, і некаторыя з іх за ноч паспелі пабываць у некалькіх.

Інфармацыю пра здарэнні ў клубах, а таксама пазіцыю міліцыі агучыў начальнік Маладзечанскага РАУС **Валянцін Асіповіч**.

**Настасся РОЎДА.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

# Юры Івашкевіч пра "Рэгіянальную газету"

**На рабочым стале кіраўніка маладзечанскага аддзялення Банка БелВЭБ ляжыць нумар "РГ".**

Юры Івашкевіч прызнаецца, што чытае газету ад першай старонкі да апошняй:

– Вельмі падабаецца, што можна адразу з адной газеты прачытаць навіны ўсяго рэгіёна. Мне, як кіраўніку аддзялення банка, трэба быць у курсе спраў рэгіёна, дзеючых прадпрыемстваў і арганізацый, трэба ведаць, чым жыве насельніцтва.

Асобная падзяка – за падачу гістарычнага кірунку. Падабаецца, што чытаеш не як у падручніку сухія факты, а бачыш чалавека ў гэтых умовах, назіраеш за тым, як гістарычныя падзеі паўплывалі на яго лёс. Тэатральная тэма заслугоўвае большай увагі: у нас жа такі выдатны Мінскі абласны драматычны тэатр, кожны спектакль – падзея.

Сёння газета найбольш акцэнтуе ўвагу на культурнай, гістарычнай і мастацкай тэматыцы, але хацелася, каб было больш эканамічных тэм і публікацый.

Таксама хочацца, каб з'явілася калонка рэдактара, Аляксандру Барысавічу варта часцей бываць на старонках газеты.

Самае галоўнае, за што я паважаю газету, – яе беларускамоўнасць.

Банк БелВЭБ 20 год супрацоўнічае з "Рэгіянальнай газетай". Наша партнёрства заўсёды было плённым і добразычлівым.

Жадаю здароўя творчаму калектыву.

Не губляйце марку. Пэўнага ўзроўню вы дасягнулі – трымайцеся яго.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

АДУКАЦЫЯ

# Найлепшым маладым педагогам на Вілейшчыне стаў мужчына

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскім раёне прайшоў конкурс прафесійнага майстэрства педагагічных работнікаў "Малады педагог-2015". Фінал яго адбыўся 21 сакавіка. У конкурсе ўдзельнічалі шэсць настаўнікаў з педагагічным стажам да пяці год.**

Абышоў усіх прадстаўніц цудоўнай паловы і стаў пераможцам адзіны мужчына-удзельнік – настаўнік геаграфіі Сцешыцкага дзіцячага сада-сярэдняй школы **Максім Ляшкевіч**. Ён жа стаў уладальнікам прыза глядацкіх сімпатый.

**– На ваш погляд, за кошт чаго ўдалося перамагчы?** – пытаю ў яго.

– Напэўна, таму, што быў адзіным прадстаўніком моцнай паловы чалавецтва сярод удзельнікаў, – усміхаецца суразмоўца.

Лаўрэатамі конкурсу сталі настаўніца англійскай мовы пачатковай школы №6 Вілейкі **Таццяна Верамей** і педагог-псіхолаг сярэдняй школы №1 Вілейкі **Анастасія Лях**.

## Найцікавейшым быў працэс падрыхтоўкі

Конкурс уключаў у сябе ўрок, які трэба было правесці ў сваёй школе (тэма і клас па выбары самога настаўніка). А таксама – псіхолага-педагагічнае тэставанне, творчую самапрэзентацыю ўдзельнікаў, абарону аўтарскіх інавацыйных адукацыйных праектаў, прысвечаных Году моладзі.

– Самым цікавым для мяне быў сам працэс падрыхтоўкі, бо ў падобным конкурсе прымаў удзел упершыню, – дзеліцца Максім. – Было цікава ўбачыць, як адно і тое ж конкурснае заданне можна вырашыць абсалютна рознымі спосабамі. Даведаўся шмат новага, што можа спатрэбіцца мне ў далейшай педагагічнай кар'еры.

**– Што было самым цяжкім?**

– Для мяне – выхад на сцэну, самапрэзентацыя і абарона свайго праекта, бо вельмі моцна хваляваўся.

Прызнаецца Максім, што настаўнікам стаў і не сказаць, што выпадкова, але і мэтанакіравана педагогам быць не імкнуўся. Вучыўся ён у БДУ на геаграфічным факультэце па спецыяльнасці "Географ, выкладчык геаграфіі".

Так склаліся жыццёвыя абставіны, што другога верасня 2013 года ён стаяў на лінейцы, прысвечанай першаму званку – ужо як настаўнік.

Другі год працуе ў школе настаўнікам геаграфіі. Жыве ў вёсцы Хадасы, на працу дабіраецца на школьным аўтобусе.

– Праца прыносіць мне пэўнае задавальненне, бо магу падзяліцца сваімі ведамі з дзецьмі, дапамагчы ім абраць будучы шлях у жыцці, – разважае.

У школе з 25 настаўнікаў усяго толькі чацвёра мужчын. Максім цалкам падтрымлівае меркаванне, што мужчын-настаўнікаў у школах павінна быць значна больш:

– На маю думку, паўнацэннае выхаванне дзіцяці як асобы магчыма толькі ў выпадку, калі сям'я поўная: есць і маці, і бацька. А школа ў некаторым сэнсе і з'яўляецца сям'ёй.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ІМПРЭЗЫ

# Выберыце свайго майстра на фота- відэавыставе

МАЛАДЗЕЧН А

**Арганізатары лічаць імпрэзу найлепшым месцам, дзе наведнікі выберуць фатографа ці аператара для свайго вяселля.**

На выставу арганізатары рыхтуюць шакаладны і кактэйлевы фантаны, а таксама гасцей чакае магчымасць атрымаць прафесійнае фота. Пра гэта распавёў адзін з арганізатараў выставы **Антон Шабуневіч**.

Выстава "Вяселле. Дыханне кахання" пачне працу а 16 гадзіне ў пятніцу, 3 красавіка, у выставачнай зале Палаца культуры.

На выставе пазнаёмяць з лепшымі работамі найлепшых фатографаў і відэаапаратараў Маладзечна.

Акцыя, падчас якой фатографы прапануюць бясплатна зрабіць фота, будзе 4 і 5 красавіка.

Выставу меркавалі адкрыць у студзені, але адклалі дату праз занятасць выставачнай залы.

Выстава будзе працаваць тры тыдні.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Фота Настассі РОЎДЫ.

У ролі пакупніцы шчаслівага батона Алены Скуратовіч выступіла карэспандэнтка "РГ" Галіна Сініца.

● УСМІХНІЦЕСЯ

# Як маладзечанка ў батоне знайшла айфон

МАЛАДЗЕЧНА

**Нягледзячы на тое, што 1 красавіка нікому не вераць, у гісторыю Алены Скуратовіч не паверыць немагчыма. Тым больш, што ў рэдакцыю яна прынесла рэчавы доказ.**

– Як заўсёды, перад працай я заходжу ў магазін, каб купіць нешта перакусіць. Сёння вырашыла купіць ёгурт і батон, тым больш батоны толькі-толькі выклалі на паліцы, яны яшчэ гарачыя былі, – расказвае наша суразмоўца. – Іду па дарозе і чую, што з сумкі іграе Грыгоры Лепс, а ў мяне такой музыкі на тэлефоне няма.

Далей усё адбылося так, як паказваюць у кінакамедыях. Тэлефон званіў у батоне.

– Канешне, я разгубілася, але батонам ахвяравала, выпусціла на волю тэлефон, зняла слухаўку.

Развязка гісторы прадказальная. Супрацоўніца хлебазавода выпадкова выпусціла тэлефон у цеста.

– Вось што значыць дарагі тэлефон, – смяецца Алена, – нават пасля духоўкі працаваць не перастаў.

Алена расказала, што сёння сустрэнецца з гаспадыняй тэлефона. Тая, за выратаванне айфона са здобнага палону, абяцала падарыць свежы торт.

## Чаму вы ніколі не знойдзеце айфон у батоне?

Гэты першакрасавіцкі жарт на сайце "РГ" пра тэлефон у батоне выклікаў бурную рэакцыю. Калі чытачы нашага сайта каментавалі і смяяліся разам з намі, то...

У разгар працоўнага дня нам у рэдакцыю пазванілі. Жанчына, якая прадставілася супрацоўніцай хлебазавода, папрасіла тэрмінова прыбраць гэты жарт з сайта.

– У мяне ад званкоў тэлефон аж чырвоны! Некаторыя разумеюць жарт, як мы з вамі, але ж ёсць людзі, якія свараяцца на нас, як мы маглі такое дапусціць.

Пасля гэтага мы насамрэч задумаліся, ці магчыма ўсё ж такі знайсці тэлефон ці іншую каштоўную рэч у звычайным батоне?

Начальнік лабараторыі Вілейскага хлебазавода **Таццяна Балаш** усе нашы спадзяванні абрэзала на карані:

– Натуральна, такое немагчыма. Па-першае, таму што ўсе супрацоўнікі перад тым, як прыступіць да працы, пераапранаюцца. Яны ўсе свае рэчы пакідаюць у распранальні. Там жа пакідаюць і пярсцёнкі, і ланцужкі, і завушніцы. Да працы прыступаюць строга ў спецадзенні і спецабутку. Валасы абавязкова закрытыя шапачкай. Нават калі б нейкім цудам тэлефон трапіў у ёмістасць з цестам, то там стаяць такія магутныя рычагі, што тэлефон разляцеўся б на дробныя запчасткі.

А калі б тэлефон усё ж трапіў у печку?

– Батон запякаецца цягам 20-25 хвілін у духоўцы, дзе тэмпература 200-250 градусаў. Ну, як вы думаеце, змог бы ён званіць пасля такога іспыту?

**Наталля ТУР.**

ЛІЧБА НУМАРА

**173** дачныя кааператывы у Маладзечанскім раёне

Паводле землеўпарадкавальнай службы Маладзечанскага райвыканкама

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 26.03 | 2.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 560,00 | **14 700,00** |
| Еўра | 15 910,00 | **15 830,00** |
| Злоты | 3 898,59 | **3 858,57** |
| Расійскі рубель | 252,00 | **255,00** |
| Грыўня | 630,74 | **626,87** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 1.04** | | |
| Еўра | 15800/16000 | **15600/15850** |
| Долар ЗША | 14450/14600 | **14500/14720** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 25.03 | 1.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 24800 | **24800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | - | **90000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41500 | **41500** |
| Селядзец, 1 кг | 38000 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 108000 | **134000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13000 | **12900** |
| Алей, 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4700 | **4800** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 14900 | **14900** |
| Морква, 1 кг | 5900 | **5900** |
| Буракі, 1 кг | - | **6000** |
| Лімоны, 1 кг | 21900 | **22500** |
| Апельсіны, 1 кг | 26500 | **22500** |
| Мандарыны, 1 кг | 22900 | **22900** |
| Ківі, 1 кг | - | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Агуркі, 1 кг | 27900 | **36900** |
| Перац, 1 кг | 37900 | **37900** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 24900 | **22900** |
| Яблыкі, 1 кг | 10900 | **10900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

● НАВІНЫ

## Купі чатыры саджанцы яблыні – атрымай пяты ў падарунак

МАЛАДЗЕЧНА

Найбольшы выбар саджанцаў яблыні на рынку райспажыўтаварыства, іх 18 сартоў. Сярод іх Алена, Белы наліў, Арлавін, Каваленкаўская, Рэд Фры, Сябрына, Белая салодкая і іншыя.

Пакупнікам, якія набылі чатыры саджанцы яблыні, пяты даюць у падарунак.

**Галіна СІНІЦА.**

| Саджанец | Цана (тысяч рублёў) |
|---|---|
| Чарэшня, вішня | 120 |
| Груша | 100 |
| Яблыня, сліва, агрэст | 50 |
| Парэчкі | 30 |
| Маліны | 15 |

## Рабочы прысабечыў дошкі для агароджы на 15 мільёнаў

ВАЛОЖЫН

31 сакавіка справу накіравалі пракуратуры для перадачы ў суд.

Пра выпадак распавяла старшы следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая.**

Мужчына працаваў у будаўнічай арганізацыі, быў матэрыяльна адказнай асобай.

У канцы мая яму даручылі зрабіць агароджу сада для яго добраўпарадкавання. Будаўнічыя работы ён рабіў цягам лета. На прадпрыемстве браў столькі будаўнічых матэрыялаў, колькі лічыў патрэбным.

Частку вёз да сада, а частку прысабечваў. Скрадзеныя дошкі ён адвозіў у вёску да сваёй маці.

Мужчына сам афармляў патрэбныя дакументы, доўгі час кіраўніцтва не заўважала крадзеж.

Сёлета атрымалі паведамленне, што работы па агароджы выканалі не ў поўным аб'ёме, пачалі разбірацца. У выніку высветлілі, што работнік скраў дошкі на 15 мільёнаў рублёў.

Шкоду ён ужо выплаціў. Следчая мяркуе, што крымінальную справу могуць спыніць па прымірэнні бакоў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота novgazeta.ru

Вілейская пракуратура бярэ на асобы кантроль тых, хто, карыстаючыся пасадай, шукае незаконныя выгоды.

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# У Вілейцы за карупцыю прыцягнулі тры службовыя асобы

ВІЛЕЙКА

**У фокусе праваахоўнікаў апынуліся кіраўнікі камбікормавага завода, таварыства "Даўгінава", а таксама адна са службовых асоб раённага спажывецкага таварыства.**

### Асудзілі дырэктара "Даўгінава"

Дырэктара таварыства "Даўгінава" падазравалі ў службовым падлогу. Следчы камітэт двойчы рыхтаваў пастанову аб спыненні папярэдняга расследавання гэтай справы, а пракуратура двойчы адмяняла. Летась у чэрвені дадаткова ўзбудзілі крымінальную справу. Прычына – заведама лжывыя звесткі пра ход і вынікі сельскагаспадарчых работ у дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці. У студзені крымінальную справу накіравалі ў суд Вілейскага раёна.

Паводле прыгавору суда, 16 лютага дырэктара прызналі вінаватым і асудзілі ў злачынствах па артыкуле "Службовы падлог". Яму прызначылі пакаранне – пазбаўленне права займаць пасады, звязаныя з арганізацыйна-распарадчымі і адміністрацыйна-гаспадарчымі паўнамоцтвамі на тры гады, а таксама штраф на сто базавых велічынь (18 мільёнаў рублёў)

### Злоўжыванне службовымі абавязкамі і крадзеж у буйным памеры

Супраць службовай асобы з Вілейскага спажывецкага таварыства ўзбудзілі тры крымінальныя справы карупцыйнага накірунку. Яе падазраюць у крадзяжы праз злоўжыванне службовымі абавязкамі, а таксама ў крадзяжы грошай у буйным памеры. Такія злачынствы прадугледжваюць пакаранне: пазбаўленне свабоды ад трох да дзесяці год.

Службовую асобу ўзялі пад варту. Папярэдняе следства вядзе райаддзел Следчага камітэта.

### Дырэктара прыцягваюць да адказнасці за прастой

Паводле вынікаў праверкі, у лістападзе пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах да дырэктара Вілейскага камбікормавага завода. Нагодай стаў зрыў мадэрнізацыі адной з ліній вытворчасці, доўгі прастой закупленага за мяжой абсталявання за 4 мільярды 800 мільёнаў рублёў.

Звесткі пра дэбіторскую запазычанасць прадпрыемстваў, пра прастой і доўгае невыкарыстанне закупленага абсталявання пастаянна аналізуюць. Таксама пракуратура аналізуе звесткі пра заможнасць тых, хто набывае дарагі транспарт, нерухомасць ці шмат валюты і пры гэтым афіцыйна нідзе не працаваў ці атрымліваў невысокі заробак. У такіх выпадках пракуратура правярае даходы праз падатковую інспекцыю і правярае дадзеныя.

### Карупцыя на асаблівым кантролі

У Вілейскім раёне праваахоўныя органы ў 2014 і 2015 гадах не ўзбуджалі крымінальных спраў па злачынствах супраць парадку эканамічнай дзейнасці. Работа па выяўленні "эканамічных" злачынстваў, на жаль, не на высокім узроўні, нярэдка бессістэмная.

У Крымінальным кодэксе больш за 40 артыкулаў, якія прадугледжваюць адказнасць за "эканамічныя" злачынствы. Найбольш распаўсюджаныя з іх – выраб ці збыт падробных грошай ці каштоўных папер, парушэнне правілаў аб здзелках з каштоўнымі металамі і камянямі, кантрабанда, ухіленне ад мытных плацяжоў, незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць, ухіленне ад выплаты падаткаў і збораў.

У 2015 годзе пракуратура Вілейскага раёна будзе акцэнтаваць увагу на карупцыйных злачынствах, а таксама накіраваных супраць парадку эканамічнай дзейнасці. Пытанне эфектыўнасці супрацьдзеяння эканамічным злачынствам разглядаць на кардынацыйным пасяджэнні па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй у Вілейскім раёне.

**Вадзім ШУКРЫНАЎ,**
**пракурор Вілейскага раёна.**







● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Пад наркотыкам лізаў дзверы "Еўраопта"

ВАЛОЖЫН

**Валожынскі РАСК узбудзіў крымінальную справу супраць 29-гадовага валожынца па артыкуле набыццё, захоўванне і перавозка наркотыкаў.**

Інцыдэнт адбыўся яшчэ ў лютым. Валожынец, скарыстаўшыся электронным кашальком, набыў у Мінску псіхатропнае рэчыва.

З'ездзіў за наркотыкам у Мінск і ўжыў у сваёй машыне, якую прыпаркаваў ля магазіна "Еўраопт".

– Праз некаторы час выйшаў з машыны, падышоў да зачыненых дзвярэй магазіна і стаў іх аблізваць. Яго неадэкватныя паводзіны зафіксавалі камеры знешняга назірання, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Валожынскага РАСК **Віктар Галоўчыц.**

**Наталля ТУР.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Збіў віляйчаніна з-за крэсла аж да комы

ВІЛЕЙКА

**Уступіў у законную сілу прысуд 34-гадоваму грамадзяніну Расійскай Федэрацыі.**

Ён, нецвярозы, 31 жніўня 2014 года ў кафэ "ШіК-стар" у Вілейцы збіў гараджаніна.

Абвінавачаны ўзяў у пацярпелага крэсла і занёс да свайго століка. Узнік канфлікт. Расіянін спачатку ўдарыў пацярпелага локцем, потым пачаў збіваць кулакамі.

Пацярпелы некалькі дзён скардзіўся на галаўны боль, і 5 верасня згубіў прытомнасць на вуліцы. Яго даставілі ў Вілейскую цэнтральную раённую бальніцу.

Адтуль паступіла паведамленне ў міліцыю. Праваахоўнікі ўстанавілі асобу крыўдзіцеля. У Расіі ён быў неаднаразова судзімы, у тым ліку за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Цягам года расіянін жыў у Вілейцы, зарэгістраваў тут шлюб.

Віляйчанін доўгі час знаходзіўся ў коме. Па стане здароўя адсутнічаў на судзе. Грамадзянін Расіі на судзе цалкам віну не прызнаў.

Але суд пагадзіўся з заключэннем, якое дало папярэдняе расследаванне. Гэта пацвярджалася паказаннямі відавочцаў, у тым ліку і жонкі абвінавачанага.

За наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў мужчыну асудзілі да шасці год пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Суд пастанавіў спагнаць на карысць пацярпелага 100 мільёнаў рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды.

Пра гэта расказаў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Віктар Гатоўка.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Летась суд канфіскаваў 42 транспартныя сродкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Сярод іх 39 легкавых аўтамабіляў, адзін мапед, матацыкл і трактар.**

У большасці выпадкаў транспартныя сродкі належалі вінаватым. У 12 выпадкаў – фактычна належалі вінаватым, але былі зарэгістраваныя на іншых асоб. Чатыры транспартныя сродкі належалі іншым асобам, адзін – юрыдычнай.

Па законе, за кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення транспартныя сродак канфіскуюць незалежна ад таго, каму ён належыць.

У ліпені 2013 года за кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення грамадзяніна арыштавалі на пяць месяцаў. Таксама пазбавілі права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспарту на пяць гадоў.

Летась у лістападзе ён зноў сеў за руль аўтамабіля "Аўдзі-100" п'яным.

Сёлета ў лютым суд Маладзечанскага раёна прызнаў яго вінаватым у кіраванні аўтамабілем у стане алкагольнага ап'янення. Яго пазбавілі волі на год і сем месяцаў. Пакаранне будзе адбываць у калоніі строгага рэжыму. Ён не мае права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартных сродкаў пяць гадоў.

Яго ўзялі пад варту ў зале суда. Аўтамабіль канфіскавалі.

**Паводле старшага памочніка пракурора Маладзечанскага раёна юрыста другога класа Вікторы ПАЛЯШЧУК.**

# Артапеду-стаматолагу з досведам дастаткова паглядзець на сківіцу, каб вызначыць стан пазваночніка

МАЛАДЗЕЧНА

**У санаторнай школе-інтэрнаце для дзяцей з захворваннямі касцёва-мышачнай сістэмы і злучальнай тканкі ўсё робяць, каб дзеці пазбавіліся ад скрыўлення пазваночніка.**

У Мінскай вобласці ёсць дзве такія ўстановы адукацыі, дзе лечаць дзяцей са скаліёзам: адна у Маладзечне, другая – у Мінску.

## На лячэнне дзеці едуць і з іншых абласцей

Школа добра зарэкамендавала сябе не толькі ў Мінскай вобласці, але і за яе межамі. Штогод ёсць заяўкі на лячэнне дзяцей з Гродзенскай і Гомельскай абласцей. Хаця ў іх ёсць установы такога тыпу.

– Раней многія бацькі з асцярогай аддавалі дзяцей у нашу школу, – расказвае псіхолаг **Марыя Аўдзеенка**. – Іх бянтэжыла назва – школа-інтэрнат, узнікалі асацыяцыі з установамі, у якіх знаходзяцца сіроты. Цяпер бацькі спакайней ставяцца да нашай установы, разумеюць, што школа так называецца таму, што дзеці тут не толькі вучацца і лечацца, але і жывуць.

Лячэнне можа доўжыцца ад адной чвэрці да ўсяго навучальнага года (ад верасня да мая). На канікулы дзеці едуць дадому, бацькі могуць прыязджаць да іх у госці.

## Дзяцей са скаліёзам стала больш

Спецыялістаў школы-інтэрната бянтэжыць, што апошнім часам павялічваецца колькасць дзяцей з захворваннямі спіны і пазваночніка.

– Калі раней, у 70-80 гады, медыкі не лічылі скаліёз захворваннем, то цяпер яго разглядаюць як сур'ёзную хваробу, – адзначае загадчык медыцынскага аддзялення санаторнай школы-інтэрната **Сяргей Іваненка**. – Гэта звязана з тым, што дзеці мала рухаюцца, доўга сядзяць у адным і тым жа становішчы.

## Скрыўленне вызначаюць да міліметра

Калі дзяцей накіроўваюць у школу-інтэрнат з захворваннямі касцёва-мышачнай сістэмы і злучальнай тканкі, ім робяць камп'ютарную аптычную тапаграфію пазваночніка. Падчас яе спецыялісты да міліметра вызначаюць, у якім аддзеле пазваночніка ёсць скрыўленне. Пасля курсу лячэння тапаграфію робяць яшчэ адзін раз. Вынікі параўноўваюць паміж сабой.

Часам у школу звяртаюцца бацькі, дзеці якіх маюць чацвертую, самую апошнюю, стадыю скаліёзу. Некаторыя з іх прыязджаюць з гарсэтам, некаторым яго прыпісваюць насіць спецыялісты школы.

– Калі ў чалавека хворы пазваночнік, ад гэтага церпяць і іншыя органы, – расказвае артапед-неўролаг санаторнай школы-інтэрната **Аляксандр Валасковіч**. – Таму ў дзяцей мы лечым і спадарожныя захворванні.

Дактары школы-інтэрната адзначаюць, што дасведчанаму артапеду-стаматолагу дастаткова паглядзець на сківіцу чалавека, каб сказаць, у якім стане знаходзіцца пазваночнік. Таму дзеці назіраюцца і ў стаматолага, які падтрымлівае стан зубоў і сківіцы ў нармальным стане.

## Стральба з лука – адна з формаў лячэння скаліёзу

У школе-інтэрнаце скаліёз лечаць комплексна. Лячэнне ўключае індывідуальную карэкцыю паставы і пазваночніка, лячэбную фізкультуру, вітамінатэрапію, кіслародныя кактэйлі, электрастымуляцыю мышцаў, падчас якой выкарыстоўваюцца токі рознай частаты і сілы. Такім чынам мышцы пачынаюць лепш працаваць.

Тры разы на тыдзень праходзяць заняткі па лячэбным плаванні, для дзяцей з грудапаяснічным скаліёзам – заняткі па стральбе з лука. У зімовы час – хадзьба на лыжах.

Спецыяльнымі гразевымі сурвэткамі накрываюць цела дзіцяці падчас цеплавых працэдур.

– Вынікі лячэння ў многім залежаць ад старанняў дзіцяці падчас заняткаў лячэбнай фізкультурай, ад пастаяннага кантролю за сваёй паставай, – расказвае доктар.



Фота забяспечана Марыяй АЎДЗЕЕНКАЙ.

Настаўнік лячэбнай фізічнай культуры Дзяніс Бараноўскі дапамагае выконваць практыкаванне свайму вучню.

## Дзіця назіраюць і пасля заканчэння лячэння

Пасля лячэння дзіцяці даюць спіс рэкамендацый, якія дапамогуць падтрымліваць пазваночнік.

– І пасля гэтага мы не пускаем дзіця ў свабоднае плаванне, – расказвае псіхолаг Марыя Аўдзеенка. – Па праходжанні некаторага часу запрашаем бацькоў на кансультацыі, а дзяцей – на прафілактычны агляд. Яны могуць звяртацца па кансультацыю па тэлефоне.

Як адзначае спецыяліст, жыццё дзіцяці ў школе-інтэрнаце нічым не адрозніваецца ад жыцця іншых дзяцей.

– Нашы спецыялісты робяць усё магчымае, каб дзіця адчувала сябе камфортна, – расказвае Марыя Аўдзеенка. – У школе працуе этнаграфічны пакой, лялечны тэатр, эстрадная студыя "Асоль", камп'ютарны клуб "Байт", школьнае радыё, майстэрня рамёстваў. Дзеці развіваюць творчыя здольнасці. У іх ёсць магчымасць вывучаць вучэбныя прадметы паглыблена.

Каб бацькі маглі прагладаць поспехі дзяцей у вучобе, спецыялісты санаторнай школы-інтэрната дапрацоўваюць на сайце сістэму электронных дзённікаў.

## У школе добра, але сумую па бацьках

**Дзіма Янушкевіч** са Стоўбцаў у школе-інтэрнаце паўтара года. Хлопчык расказвае, што спачатку для яго было незразумела, чаму бацькі накіравалі яго сюды.

– Аднак мне тут вельмі спадабалася, – дзеліцца Дзіма. – У мяне з'явілася многа сяброў, я спяваю ў эстраднай студыі "Асоль". Напэўна, няма ні аднаго мерапрыемства ў школе, дзе б я не спяваў!

Дома хлопчыку трэба выконваць рэкамендацыі, якія яму далі ў школе-інтэрнаце.

– Часам я лянуюся рабіць тое, што трэба, таму ўгаворваю сябе, – прызнаецца Дзіма. – Я ж не хачу назаўсёды быць у школе. Тут добра, але хачу хутчэй да бацькоў. Яны таксама сумуюць.

## У школе ўсе спагадлівыя, сама раблюся такой

**Насця Станкевіч** з аграгарадка Беразінскае на Маладзечаншчыне гаворыць, што школа навучыла яе думаць не толькі пра сябе, але і пра іншых.

– У школе і настаўнікі, і дзеці спагадлівыя, – расказвае Насця. – І я таксама навучылася быць такой. Цяпер думаю не толькі пра тое, каб мне было добра, але і маім сябрам. Стараюся нікога не пакрыўдзіць, падтрымліваю навенькіх.

## На 1 красавіка – дошка ў мыле

**Уладзіслаў Бойка** з Пухавіцкага раёна знаходзіцца ў школе год. Юнак вельмі рады, што тут лепш навучыўся іграць на гітары.

Летась на 1 красавіка ён з аднакласнікамі нажартаваў – яны намазалі дошку мылам. Настаўніца некалькі разоў спрабавала напісаць – нічога не атрымалася, зразумела ў чым справа.

Юнак гаворыць, што самае складанае ў школе – развітвацца з сябрамі. Пасля перапісваюцца ў сацыяльных сетках,ператэлефаноўваюцца, часам сустракаюцца.



**Галіна СІНІЦА**
8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

### Факты пра Маладзечанскую школу-інтэрнат

1. Школа ўтварылася ў 1960 годзе як агульнаадукацыйная школа-інтэрнат. Пасля яе пераўтварылі ў школу-інтэрнат для дзяцей, хворых на скаліёз, цяпер гэта санаторная школа-інтэрнат для дзяцей, хворых на скаліёз.
2. Кожны год у школе аздараўляецца ў сярэднім 270 школьнікаў.
3. У 95% дзяцей пасля лячэння стабілізуецца здароўе. Бываюць выпадкі, калі здароўе дзяцей не паляпшаецца. Гэта звязана з індывідуальнымі асаблівасцямі арганізма. Тады дзецям і на наступны год рэкамендуюць прайсці лячэнне.
4. У санаторнай школе-інтэрнаце ёсць адзіная ў краіне зала трэнажораў Юліна. На іх можна займацца ў розным становішчы: седзячы, лежачы, стоячы. Падчас заняткаў на пазваночнік нічога не ціснe зверху, яны даюць эфект выцягвання.
5. Школа-інтэрнат супрацоўнічае з вядучым спецыялістам Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра траўматалогіі і артапедыі кандыдатам медыцынскіх навук **Дзмітрыем Цесаковым**.

ТЭАТР

# У Дзень тэатра акцёрам вынеслі прысуд

МАЛАДЗЕЧНА

**Агульную карціну таго, што адбывалася ў тэатры 27 сакавіка, можна апісаць словамі аднаго з герояў прадстаўлення: "Што б я калі дзе што-небудзь якое, а то я ніколі, нідзе, нічога, ніякага. Я нікому ніколі нічога ніякага, а калі што якое, дык што там такое?"**

Прызнацца па праўдзе, пачатак мерапрыемства энтузіязму не выклікаў.

Ідзеш у тэатр, ведаеш, што ў акцёраў прафесійнае свята, прачытаў у афішы, што чакае "інтрыга ў адным дзеянні"...

Адчыняеш дзверы і трапляеш туды, дзе на раялі іграюць жалобную музыку, а ля сцяны стаяць два столікі з прэзентацыяй малочных прадуктаў. І, здавалася б, і задума добрая, і сыркі смачныя. Але гэта ну ніяк не асацыявалася з тэатрам, сустрэчы з якім чакаеш з асаблівым трапятаннем.

Ды толькі пра гэтыя недарэчнасці забываешся адразу пасля трэцяга званка.

## "У мяне прэм'ера! Вады мне!"

Усе тыя, дзеля каго мы, уласна, і ходзім у тэатр, на гэты раз размясціліся ў глядзельнай зале. Адзін за адным у залу заходзілі акцёры: **Аляксей і Тацццяна Карпец, Алена Рахмангулава, Людміла Рошчына, Дзяніс Фешчанка, Павел Святоха, Сяргей Карзей, Барыс Донін, Ала Цырук...**

Але хто ж у такім выпадку выйдзе на сцэну?

А на сцэне з'явілася экзатычная дама з чыпсамі, якая тут жа заявіла, што ў яе сёння прэм'ера, і патрабавала кубак вады. Нягледзячы на тое, што дама прадставілася тэатральным крытыкам Іаннай Лажэвіч, у ёй лёгка пазнаваўся выкладчык гімназіі-каледжа мастацтваў акцёр **Генадзь Пшэннік.** Менавіта спектакль у яго пастаноўцы быў вынесены на суд гледачоў.

Праўда, хутчэй гэта быў не спектакль, а мікс тэатральных жанраў. На сцэне выступалі дзеці з тэатра-студыі "ТэсТ", спявалі песні, гралі на саксафоне, уручалі тэатральную прэмію. І лейтматывам праз усё гэта дзейства праходзіў твор **Андрэя Макаёнка** "Трыбунал". Толькі ў маладзечанскай пастаноўцы судзілі галоўнага героя за тое, што ён пайшоў служыць... акцёрам.

– Я вельмі баяўся выходзіць на сцэну ў вобразе жанчыны. Таму што мне здаецца, што пасля Калягіна гэта таленавіта не рабіў ніхто, – сціпла прызнаецца Генадзь Пшэннік. – Але, як заўжды, самае цяжкае даводзіцца браць на сябе.

**– Мяркуючы па імені вашай гераіні, вы павінны былі ўсё і ўсіх крытыкаваць. А крытыкі было мала таму, што вам усё падабаецца?**

– Крытыкі было мала, таму што акцёры вельмі крыўдлівы народ. Пажартуеш, а потым з табой век размаўляць не будуць. Я і так перажываю, што, можа, недзе нядобра пажартаваў.

## Тэатральная прэмія стане штогадовай

Дырэктар Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Юры Крывенькі** спадзяецца, што прэмія стане штогадовай.

– Сёлета заказалі ў дызайнераў статуэткі ў выглядзе яблыні, на якой вісіць адзін яблык з тэатральнымі маскамі.

Такі дызайн выбраны невыпадкова. Юры Крывенькі патлумачыў, што пры выбары кіраваліся тым, што візітная картка тэатра – гэта спектакль "Камедыя". А там, калі памятае глядач, галоўная дэкарацыя якраз дрэва.

> **– Мы гэтым спектаклем адкрываем і закрываем сезон. У канцы гэтага тэатральнага сезона мы плануем паставіць такое ж дрэва ў фае тэатра і частаваць гледачоў тэатральнымі яблыкамі, – дзеліцца планамі дырэктар тэатра.**



Фота Наталлі ТУР

**Маладыя акцёры, вучні Генадзя Пшэнніка, Лідзія Мялюк і Андрэй Лапцеў перaконвалі гледачоў, што няма горшай дарогі, як "ісці ў акцёры".**

Першая прэмія, відома, мела свае белыя плямы. Напрыклад, не ўзгадалі маладых акцёраў.

Але, калі верыць словам Юрыя Крывенькага, прэмія стане традыцыйнай, а гэта значыць, што шоу мусіць працягвацца.

## Уладальнікі першай тэатральнай прэміі

Усяго ў гэты вечар прэміі ўручылі ў пяці намінацыях. Лепшым дзіцячым спектаклем назвалі спектакль "Парася, якое спявае". Лепшай актрысай стала Алена Рахмангулава, акцёрам – Аляксей Карпец. Мэтрам сцэны прызналі **Барыса Доніна**, а лепшы акцёрскі ансамбль – Ала Цырук і **Аляксандр Каласніцын**.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

ВЫСТАВЫ

# Вобразы з літар і старыя фотаздымкі ў карцінах – у Вілейцы праходзіць выстава "Фамільны альбом"

ВІЛЕЙКА.

**У зале выстаў краязнаўчага музея можна пабачыць незвычайныя карціны гродзенскага мастака Аляксандра Сільвановіча. Працуе ён у такім накірунку сучаснага мастацтва, як "прадметны сімвалізм".**

"Гэта мастацтва адрозніваецца ад таго, да якога мы прывыклі: "У рамцы – палатно, на палатне – пейзаж, нацюрморт, партрэт", – адгукаліся пра выставу мастака ў Беластоку.

– Чым цікавыя гэтыя працы? Творца звяртаецца да міфічных вобразаў, паданняў – таго сімвалізму, які калісьці стваралі нашы продкі, імкнецца пераласці яго на сучасны лад. Некаторыя працы можна атаясамліваць са старадаўнім клінапісам, – расказвае навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей.**

Творца з'яўляецца ўдзельнікам шматлікіх пленэраў у Беларусі, Польшчы, Літве, Харватыі і Грэцыі. На выставу "Фамільны альбом" ён прывёз у Вілейку 15 прац.

## Вобразы, што нараджаюцца з літар

Сярод іх творы з праекта "Альфабэт". Асноўным сімвалам іх з'яўляецца літара. А з літар ствараюцца надпісы і вядомыя вобразы – піраміда, лабірынт.

Ёсць карціны, прысвечаныя Гродзеншчыне. А ў працы "Зямля пад белымі крыламі" сабраны вобразы розных твораў Уладзіміра Караткевіча.

Цэнтральны твор выставы – трыпціх "Фамільны альбом". На ім паказаны тры роды, ад якіх пайшоў мастак: **Лазоўскія**, **Шкляры** і **Сільвановічы**.

У працы выкарыстаныя старыя фотаздымкі. Яшчэ намаляваныя сімвалічныя маленькія дрэўцы, домікі, вобразы, якія паказваюць той час і ўпісваюцца ў агульную канцэпцыю, – дзеліцца Надзея Аўдзей. – Выкананы твор у цёплых тонах і перадае пяшчоту і любоў да родных каранёў, сваёй радзімы.

На адкрыццё выставы сярод іншых завіталі сябры мастака. Дзяліўся ўспамінамі вілейскі архітэктар і краязнаўца **Анатоль Капцюг** – ён знаёмы з мастаком па Гродне.

Прыехаў сталічны мастак **Аляксандр Грышкевіч**, карані якога з вёскі Дашкаўка на Вілейшчыне, а нарадзіўся і вырас у Маладзечне. Ён паспрыяў правядзенню ў Вілейцы выставы сябра: доўгі час падштурхоўваў творцу да гэтага. Сказаў **Аляксандр Грышкевіч**, што мастак, можна сказаць, адзіны ў Беларусі, працуе ў такой тэхніцы.

Працягнецца выстава да 19 красавіка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАНЦЭРТЫ

# У Маладзечне фестываль пройдзе ў чэрвені, а Лепс завітае ў ліпені

МАЛАДЗЕЧНА

**Прыездам якіх зорак парадуе і здзівіць гэтай вясной і летам Палац культуры, адказвае намесніца дырэктара па інфармацыйнай і канцэртнай дзейнасці Палаца культуры Маладзечна Ала Яцына.**

– Бліжэйшых гасцей мы чакаем з Санкт-Пецярбурга. 17 красавіка да нас едзе Санкт-Пецярбургскі тэатр аперэты са спектаклем "Бабін бунт".

25 мая ў Летні амфітэатр прыедзе Ані Лорак.

У пачатку чэрвеня, а дакладна ад 5 да 7 чэрвеня ў Маладзечне будзе праходзіць традыцыйны фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2015".

– А 5 ліпеня да нас у горад прыязджае Грыгоры Лепс.

Кошт білетаў на канцэрт Грыгорыя Лепса будзе вядомы пазней.

На восень Ала Яцына не загадвае, але абяцае, што сёлета ў Маладзечне плануюцца выступленні вядомых беларускіх артыстаў, гастролі тэатраў і канцэрты зорак.

**Наталля ТУР.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Вольга Юзапчук, дзяўчына, якую знайшлі іншыя, цяпер шукае сябе

МАЛАДЗЕЧНА

**Яе восем дзён шукалі ў Маладзечне, Чысці, Красным, Мінску. Знайшлі за 250 кіламетраў ад дому, у Гродне.**



Фота vk.com.

Вольга Юзапчук (справа) вольны час бавіць з сябрамі. На здымку яна з сяброўкай Аленай Цюлькінай.

Вольга знайшлася жывая і здаровая. Вярнулася дадому. Першае, што папрасіла ў машыне "хуткай дапамогі", – гэта паесці.

– Яна цэлы тыдзень не магла наесціся і выспацца, – кажа маці Вольгі **Ясенія.**

Але пасля ў сям'і пачаліся іншыя непрыемнасці.

Як кажа Ясенія, ёй пачалі тэлефанаваць знаёмыя і цікавіцца, ці знайшлася Вольга.

– Калі чулі ў адказ, што знайшлася жывая і здаровая, пыталіся: "І што, ніхто нават не пабіў яе?" І гублялі цікавасць да размовы.

Вольга Юзапчук сёлета заканчвае гандлёва-эканамічны каледж. Цяпер у яе павінна быць практыка, але дырэктар магазіна ў Чысці адмовіў Вользе ў праходжанні практыкі.

Той жа самы адказ атрымала Вольга і ў райспажыўтаварыстве.

– Я сама не хадзіла ні да дырэктара магазіна, ні ў райспажыўтаварыства. Хадзіла мама. І ёй пра мяне казалі, што не возьмуць на практыку, таму што я непуцёвая, – кажа Вольга.

– Магазіны не абавязаныя браць на практыку нашых навучэнцаў, – адказвае дырэктар гандлёва-эканамічнага каледжа **Алег Чарапові**. – Але я ўпершыню чую, што адмовілі нашай навучэнцы. Да мяне яна не звярталася. І ў нас такога не было, каб мы не забяспечылі кагосьці практыкай.

### Сябар: "Я заўсёды яе падтрымаю"

Сябар Вольгі, **Аляксей**, прызнаецца, што пасля Волінага ўчынку ніяк не змяніў да яе сваіх адносін:

– Ды я бачу, што ў яе асяроддзі да Вольгі адносіны не памяняліся. Толькі часам заўважаю, што незнаёмыя людзі праводзяць Вольгу позіркам. А сябры, аднагрупнікі, вядома, лічаць яе сяброўкай.

Аляксей, апісваючы Вольгу, сказаў, што яна добрая, вясёлая, шчырая.

– Толькі часта думае не галавой, а іншым месцам. Ну як можна было, маючы 20 тысяч у кішэні, з'ехаць за 300 кіламетраў? Але памыляюцца ж многія. Ёй і да гэтага казаў: "Воля, вучыся, старайся". І на заняткі яе ўвесь час ганяю. Яна ківае, так, трэба вучыцца, але робіць чамусьці наадварот. Я заўсёды яе падтрымаю. Думаю, яна выправіцца, стане дарослай.

### "Хачу шукаць людзей"

Між тым, **Цімафей Дуброўскі**, каардынатар пошукаў Вольгі, кажа, што на гэтым яго работа не заканчваецца.

– Мы спрацавалі аператыўна і тактычна правільна, але гэта не ўся наша работа.

Цімафей паўтарыўся, што распачаў працу над праграмай падтрымкі людзей, чые сваякі зніклі або зніклі без вестак.

– Таму першае, што мы прапанавалі Вользе, гэта далучыцца да гэтай справы – дапамагаць шукаць зніклых людзей або размаўляць з людзьмі, якія знайшліся.

Калі мы задалі пытанне Вользе, што думае пра гэта яна, дзяўчына сказала:

– Калі раней мяне пыталіся, чым я хачу займацца ў жыцці, я не ведала.

> **І толькі цяпер пераканалася, што хачу дапамагаць людзям. І калі ў мяне ёсць такая магчымасць, я з задавальненнем буду дапамагаць, чым змагу.**

Мяне не пужае тое, што давядзецца не спаць начамі і шукаць людзей нават у небяспечных месцах. І ў сваю чаргу хачу падзякаваць усім людзям, хто шукаў мяне. І папрасіць прабачэння за бяссонныя ночы як у блізкіх людзей, так і ў тых, хто проста не застаўся ўбаку.

**Наталля ТУР.**

ЗДАРЭННІ

## "Не хапіла пяці хвілін, каб дайсці дадому"

### Мужчына загінуў каля відэасалона вечарам у пятніцу

МАЛАДЗЕЧНА

**Хто выклікаў "хуткую дапамогу" і ці спазніліся медыкі?**

Трагедыя адбылася каля 22 гадзін у пятніцу, 27 сакавіка.

Старшы фельчар "хуткай дапамогі" **Тамара Захарыч** пацвердзіла, што выклік прынялі у 22:18.

43-гадовы мужчына ішоў па Вялікім Гасцінцы каля відэасалона. Яму стала кепска. Спачатку прысеў, пасля страціў прытомнасць і ўпаў.

Маладыя людзі, якія ішлі побач, выклікалі медыкаў, а пакуль чакалі дактароў, аказвалі рэанімацыйныя дзеянні. **Мікіта Пусікетаў**, які выклікаў "хуткую", у сацыяльных сетках апісвае сітуацыю так:

> **Ён быў цвярозы, у яго балела ў грудзях, ён упаў. Я падышоў, выклікаў "хуткую", яна ехала 20 хвілін. Пульса не было, сэрца ледзь білася, задыхаўся. Я рабіў масаж сэрца, штучнае дыханне.**

Тамара Захарыч адказвае, што рэанімабіль прыехаў у 22:23, а з выкліку вярнуўся ў 23:51:

– У гэтым выпадку мы час не згубілі. За пяць хвілін брыгада даехала з вуліцы Грамадоўскай да відэасалона, таму з хуткасцю якраз пашанцавала. Быў вечар, дарога не загружаная. Час мы губляем звычайна праз тое, што днём шмат машын, а кіроўцы не заўсёды саступаюць. Яшчэ адна перавага – малады чалавек, які выклікаў, падрабязна апісаў, дзе знахо дзіцца, пацвердзіў, што выклік не ілжывы. Медыкі прыехалі вельмі хутка.

Фельчар схіляецца, што ў загінулага парушаныя рытмы, яго сэрца не вытрымала. Яму не хапіла некалькі хвілін, каб дайсці дадому. У рэанімабілі былі высокакваліфікаваныя дактары, але, на жаль, выратаваць чалавека не атрымалася.

На сваёй старонцы Мікіта Пусікетаў дзеліцца пачуццямі: "Калі ты ідзеш дадому і бачыш, што чалавеку кепска стала, і выклікаеш яму дапамагчы, і ён памірае ў цябе на руках… Гэта вельмі кепскае пачуццё. Хоць ты яго і не ведаў, усё роўна плачаш! Няхай зямля яму будзе пухам, а неба раем".

Тамара Захарыч раіць у выпадках, калі вам становіцца кепска, адразу званіць у "хуткую дапамогу". Мы не носім з сабой мноства лекаў, а мабільнік заўсёды пры сабе. Нават калі вы не можаце вымавіць ні слова, ваш нумар зафіксуецца. Медыкі адразу перэтэлефаноўваюць. Калі няма адказу, накіроўваюць на месца брыгаду экстраннай службы, якая найбліжэй да месца – медыкаў, выратавальнікаў ці міліцыю, каб праверыць выклік.

Таму ў экстраннай сітуацыі набярыце **101, 102** ці **103.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Ля "Спадарожніка" спілавалі чатыры блакітныя елкі і каштанавую алею

МАЛАДЗЕЧНА

Дрэвы перашка джаюць пабудове паркоўкі ля новага гандлёва-забаўляльна-адміністрацыйнага цэнтра.

Расказвае начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама **Святлана Хрусталёва**:

– Наконт гэтага ўчастка ёсць рашэнне выканкама, распрацаваны праект. "Полігандалькансалт", арганізацыя, што займаецца рамонтам і рэканструкцыяй, дзейнічае ў межах закона. Дрэвы гэтыя мелі непрывабны выгляд і раслі ля самага будынка.

Пасля завяршэння прац на гэтым месцы будзе пабудаваная паркоўка і новы гандлёва-забаўляльна-адміністрацыйны цэнтр.

Па законе, замест знішчанага ці пашко джанага дрэва, той, хто ўчыніў шкоду, абавязаны зрабіць кампенсацыйную пасадку дрэў.

– "Полігандалькансалту" налічылі 200 дрэў у якасці кампенсацыйных пасадак, – працягвае Святлана Хрусталёва. – Дзе будуць высаджаныя гэтыя дрэвы, выканкам будзе вырашаць сумесна з зелянгасам.

**Наталля ТУР.**

ГРАМАДСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

## На Вілейшчыне прайшла талака, якой не памяталі і старажылы

ВІЛЕЙКА

**Яна адбылася 28 сакавіка на Сакалоўскіх могілках. Ініцыятарамі яе выступілі Хаценчыцкі сельвыканкам і вясковыя актывісты.**

Сярод іх старшыня Хаценчыцкага сельвыканкама **Святлана Валовік**, дэпутат Вілейскага райсавета **Таццяна Косцік**, яе маці **Ларыса Валовік** з сям'ёй, таксама **Уладзімір Барысевіч, Аляксандр Іванец, Валовікі, Сабалеўскія, Шахраі, Цывількі, Раткевічы, Наўмовічы, Іванцы, Паўлюкевічы** і шмат-шмат іншых.

– Было больш за 50 чалавек, а людзі ўсё ішлі, – дзеліцца ўражаннямі актыўны ўдзельнік талакі **Алесь Раткевіч**. – Ішлі нават сем'ямі. Такой шматлюднай талакі не памяталі і старажылы.

Як мяркуе Алесь Раткевіч, раней не было неабходнасці збірацца – кожны прыбіраў магілкі не толькі сваякоў, але і недагледжаныя па суседстве.

Цяпер падчас талакі ўдзельнікі прыбралі смецце, спілавалі небяспечныя дрэвы, сухія галінкі, павысякалі кусты. Не пакінулі без увагі і прылеглую тэрыторыю, на якой было смецце.

Хаценчыцкі сельвыканкам даў неабходную тэхніку – трактары, бензапілы. А **Уладзімір Мардас**, за свой кошт, прыгнаў з Мінска магутную сучасную тэхніку. Пры дапамозе яе спілавалі небяспечныя сухастоі.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Аўдыёгід здолее зрабіць цікавейшай экскурсію па ўзбярэжжы Нарачы.

АДПАЧЫНАК

# У Нарачанскім краі ствараюць аўдыёгіды

МЯДЗЕЛ

**У Нацыянальным парку "Нарачанскі" цяпер распрацоўваецца аўдыёгід па ўзбярэжжы Нарачы – ад турыстычнай стаянкі "Антанізберг" да былой вёскі Сцепянёва.**

Мяркуючы зрабіць яго да лета, расказаў намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валеры Люштык**.

Гуляючы ля Нарачы, турыст пры дапамозе аўдыёгіда зможа атрымаць шмат пазнавальнай інфармацыі: пра возера і Нацыянальны парк, экалагічную сцяжынку, расліны і жывёлы, рэльеф. Таксама можна будзе пачуць паданні, пабачыць фотаздымкі.

Ствараюць аўдыёгід супрацоўнікі навуковага аддзела Нацыянальнага парку "Нарачанскі" разам з прадстаўнікамі мясцовай супольнасці.

Наступным, магчыма, будзе аўдыёгід па прыродным комплексе "Блакітныя азёры". Гэтыя мясціны прыцягваюць шмат турыстаў, і аўдыёгід дапаможа ім зрабіць цікавейшай экскурсію па прыгожых азёрах.

### Як гэта працуе

Гэта будзе другі аўдыёгід па Нарачанскім краі. Летась з'явіўся падобны па курортным пасёлку Нарач (Купа).

Скарыстацца аўдыёгідам змогуць уладальнікі смартфона або планшэта. Для гэтага трэба загрузіць прыладу OPAS і аўдыёгід.

Пры ўваходжанні на цікавы аб'ект пры працуючым GPS уключаецца аўдыёзапіс. На экране ёсць тэкставы запіс агучанага расказу і інтэрактыўная карта, фотаздымкі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ГІСТОРЫЯ

# Умацаванні і пахаванні Першай сусветнай занеслі на карту

МЯДЗЕЛ

**Інтэрактыўная карта з аб'ектамі Першай сусветнай вайны з'явілася ў інтэрнэце.**

Яна ахоплівае пераважна Мядзельскі раён. Ёсць таксама аб'екты на Пастаўшчыне і Смаргоншчыне.

На карце пазначана больш за 300 аб'ектаў – як нямецкія, так і рускія. Гэта ўмацаваныя збудаванні, агнявыя пункты, бліндажы, камандзірскія пункты, пахаванні. У акенцы з'яўляецца кароткая інфармацыя пра аб'ект і яго фатаграфія. Нанесеная на карце таксама лінія фронту.

– Карта дапаможа тым, хто цікавіцца тэмай Першай сусветнай, – кажа намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валеры Люштык**. – Каб турысты ў залежнасці ад таго, колькі маюць часу, маглі спланаваць сабе вандроўку. Можна на два дні ў паход пайсці, можна на дзве гадзіны экскурсію зрабіць.

Таксама дапаможа карта ўявіць маштаб ваенных дзеянняў.

– На ёй пабачыш, якая моцная была нямецкая абарона, асабліва паміж азёрамі Нарач і Мядзел. І якую мужнасць трэба было праявіць рускім салдатам, каб ісці ў наступленне падчас Нарачанскай аперацыі 1916 года, – працягвае Валеры Люштык.

Стварылі карту супрацоўнікі навуковага аддзела Нацыянальнага парку ў межах сумеснага фотапраекта-даследавання з фотамастаком з Пастаў **Васілём Беляковым** "Іх лёсы злітыя разам...".

Знайсці карту можна на сайце "Нарачанскага" (narochpark.by) у раздзеле "Карты". Яна будзе яшчэ дапрацоўвацца.

Алесь ВЫСОЦКІ.

АСОБЫ

# Пяць прадстаўнікоў рэгіёна сталі чалавекам года Міншчыны

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

Прэмію Мінаблвыканкама "Чалавек года Міншчыны" ўручылі 27 сакавіка ў Жодзіне. Атрымалі яе 20 чалавек.

У іх лік увайшлі пяць прадстаўнікоў рэгіёна (спіс прыводзіць "Мінская праўда"). Два з іх з Маладзечна. Гэта дырэктар ПМК №212 **Вячаслаў Бярнацкі** і старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах аддзела па барацьбе з кантрабандай і адміністрацыйнымі мытнымі правапарушэннямі Мінскай рэгіянальнай мытні **Вячаслаў Бомбель**.

У спісе таксама двое прадстаўнікоў Мядзельшчыны: начальнік Мядзельскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Каркоцкі** і ветэран Вялікай Айчыннай вайны **Міхаіл Гардон**. Гэта другое пачэснае званне для Міхаіла Гардона за апошні час: месяц таму "РГ" паведамляла, што Міхаіл Гардон стаў Ганаровым грамадзянінам Мядзельскага раёна.

Таксама чалавекам года Міншчыны прызналі машыніста экскаватара ДБУ №13 **Міхаіла Маўчуна** (Вілейка).

Аддзел інфармацыі.

**Даведка "РГ".** Прэмія "Чалавек года Міншчыны" заснаваная ў 2011 годзе. Пераможцаў абласнога конкурсу вызначаюць у трох намінацыях: вытворчая дзейнасць, невытворчая сфера, грамадска-палітычная дзейнасць. Уладальнікам ганаровага звання ўручаюць прэмію – 100 базавых велічынь (18 мільёнаў рублёў).

НАВАКОЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ

# Плануюць закласці парк Перамогі на Вілейшчыне

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

Ад 28 сакавіка да 4 красавіка ў краіне праходзіць тыдзень лесу. Ён прымеркаваны да 70-годдзя Перамогі. Далучацца могуць усе ахвотныя.

За гэты час планавалі прыбраць смецце, пасадзіць новыя дрэвы.

У Маладзечанскім раёне высадзяць 380 дрэў. Гэта 75 гектараў. Для гэтых мэт выдзелілі 65 участкаў.

– Вельмі актыўна ў тыдні лесу ўдзельнічаюць школьнікі і арганізацыі, – адзначае намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце Маладзечанскага лясгаса **Віталь Дземеш**. – На месцы спаленай у вайну вёскі Сакаўшчына школьнікі добраўпарадкуюць тэрыторыю.

У Маладзечанскім лясгасе выкапаюць адзін мільён сеянцаў сасны, елкі, лістоўніцы, дуба. Частку з іх плануюць прадаць у Расію.

У Вілейскім раёне ў кожным лясніцтве ёсць участкі, на якіх пасадзяць дрэвы. Каля мемарыяльных комплексаў у вёсках Горкі і Любча прыбяруць смецце.

Як адзначыла намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце Вілейскага лясгаса **Таццяна Аніщчык**, у Воўкаўшчыне плануюць закласці парк Перамогі.

Галіна СІНІЦА.

АДУКАЦЫЯ

# Вучні "Логаса" атрымалі шэсць дыпломаў у Расіі

ВІЛЕЙКА

Навукова-адукацыйны цэнтр эканомікі і інфармацыйных тэхналогій Інстытута сацыяльна-эканамічнага развіцця Расійскай акадэміі навук правеў Адкрытую алімпіяду па эканоміцы.

Праводзілася яна ад 1 кастрычніка мінулага года да 28 лютага гэтага ў два туры: завочны і вочны.

На завочны тур алімпіяды вучні вілейскай гімназіі №1 "Логас" прадставілі 10 прац. Сем з іх журы адабрала на вочны тур, які праходзіў анлайн.

Падвялі ўжо вынікі. Шасцёра вучняў "Логаса" занялі прызавыя месцы.

Дыпломамі першай ступені ўзнагароджаныя вучні 5 "А" класа **Уладзімір Гатоўка** і 9 "В" класа **Максім Маліноўскі.**

Дыпломы II ступені ў **Марыны Жаўняровіч** (5 "А" клас), і **Дзмітрыя Занкавіча** (9 "А"). Дыпломы III ступені – у **Кірыла Сюдака** (6 "А") і **Паліны Гардзевіч**, 7 "Б" клас.

Алена МАЧЭЛЬ, Вілейка.

● МІНІ-ФУТБОЛ

# “Былі ўпэўненыя, што пераможам”

## Каманда цэнтра “Зубраня” стала чэмпіёнам

МЯДЗЕЛ

**Пераможца чэмпіянату Мядзельскага раёна па міні-футболе вызначыўся 14 сакавіка.**

У вырашальнай гульні сустрэліся каманды Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра “Зубраня” і “Алімпік” з Мядзела. Дагэтуль абедзве каманды мелі толькі перамогі.

### 4:1 на карысць “Зубраняці”

Гледачы адчайна падтрымлівалі свае каманды. Ды толькі ў першым тайме яны пабачылі ўсяго адзін гол: вызначыліся гульцы “Зубраняці”.

У другім тайме яны забілі яшчэ два галы. Але гульня не была ў “адны вароты”: барацьба ішла ўпартая. Моманты мелі абедзве каманды. За дзесяць хвілін да канца сустрэчы “Алімпік” скараціў адставанне. Большага гульцы каманды дасягнуць не змаглі. Наадварот, прапусцілі яшчэ адзін гол.

Канчатковы вынік – 4:1 на карысць цэнтра “Зубраня”. За “Алімпік” у гэты дзень не здолелі згуляць усе наймацнейшыя футбалісты.

– Настройваліся на гульню сур’ёзна, бо сапернік моцны, – падзяліўся капітан каманды “Зубраня” **Віталь Філіповіч**. – Усё ж думалі, што будзе лягчэй. Хаця ў сваёй перамозе былі ўпэўненыя, бо склад сёлета ў нас падабраўся прыстойны.

**– Усё ж гульня была нялёгкая...**

– Дзякуй нашаму варатару **Ігару Калашнікаву**: выручаў нас. Але і мы свае моманты не рэалізоўвалі. На працягу турніру першы тайм у нас горшы, чым другі. І гэта гульня тое даказвае.

### Другі раз у чэмпіёнах

Лічыць Віталь, што чэмпіянат склаўся для каманды выдатна: мяркуючы і па выніку, і па гульні:

– Хацелася б адзначыць гульні з камандамі ІП “Мядзел”, “Алімпік”. Астатнія гульні асаблівым напалам не адрозніваліся.

На важных сустрэчах футбалістаў падтрымлівалі дырэктар цэнтра “Зубраня” **Надзея Ануфрыева**. А на адну гульню чырлідараў з цэнтра прывезлі.

Чэмпіянат праводзіцца трэці год, каманда “Зубраня” перамагла другі раз. Летась яна заняла другое месца.

> – Папярэдні чэмпіянат – гэта асобная размова, бо ў фінальнай сустрэчы з камандай “Мядзел” з-за траўмы не гуляў адзін з лідараў нашай каманды **Віталь Місуна.** І мы прайгралі 3: 4. Але потым на выніковым турніры трох камандаў мы ўзялі пераканаўчы рэванш з лікам 9:5.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Першы рад злева направа: Аляксандр Гулевіч, Віталь Філіповіч, Віталь Місуна. Другі рад: Ігар Калашнікаў, Уладзімір Рагель, Канстанцін Гурскі.

**– У пачатку чэмпіянату ці разлічвалі, што возьмеце рэванш за мінулы турнір?**

– Былі ўпэўненыя, што пераможам.

Адна з прычын такой ўпэўненасці – трэніроўкі тры разы на тыдзень, выезд на іншыя спаборніцтвы.

**– На ваш погляд, як узровень чэмпіянату, ці расце?**

– Дакладна не расце: літаральна дзве-тры каманды рэальна змагаюцца за чэмпіёнства. Вельмі шкада.

Лепшымі бамбардзірамі “Зубраняці” сталі **Канстанцін Гурскі** і Віталь Філіповіч. Акрамя тых, хто змагаўся ў вырашальнай гульні з “Алімпікам”, у склад каманды ўваходзяць **Яўген Бліноў**, **Яўген Васіліцкі**, **Дзмітры Зянько**, **Вадзім Ясюкевіч**.

Уладальнікам трэцяга месца ў чэмпіянаце стала каманда індывідуальных прадпрымальнікаў “Мядзел”.

Алесь ВЫСОЦКІ.

● НАВІНЫ

### Сяргей Крот зрабіў хет-трык за тайм

СМАРГОНЬ

У чарговым тварыскім матчы “Смаргонь” упэўнена абыграла дубль барысаўскага “БАТЭ” 4:0. Адбылася сустрэча 28 сакавіка на штучным полі ДЮСШ у Смаргоні.

Хет-трык яшчэ ў першым тайме зрабіў **Сяргей Крот**, расказаў прэсаташэ клуба **Уладзімір Амбрасевіч**. У другім у вароты сапернікаў уляцеў яшчэ аўтагол.

### “Вілія” прайграла “Фарсажу”

СМАРГОНЬ

Смаргонская “Вілія” 28 сакавіка прайграла ў матчы чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе ў вышэйшай лізе. У гасцях смаргонцы сустракаліся з камандай “Фарсаж”, якая ідзе другой. Саступілі з вынікам 7:14.

“Вілія” па-ранейшаму займае пятае месца.

### Выратавальнікі занялі ўсе першыя месцы

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы прайшлі спаборніцтвы па гіравым спорце ў межах круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў.

Перамагла каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях. На другім месцы – прадстаўнікі Вілейскага доследнага лясгаса. На трэцім – каманда Вілейскага водаканала.

Спаборніцтвы па гіравым дваяборстве праходзілі ў дзвюх вагавых катэгорыях: да 90 кілаграмаў і звыш 90 кілаграмаў, распавёў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” **Аляксандр Вайда.**

У абедзвюх катэгорыях мацнейшымі былі прадстаўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях. У катэгорыі да 90 кілаграмаў перамог **Юры Бельскі**, а звыш 90 – **Сяргей Адамовіч.**

### Тэнісісты лепшыя – у адукацыі

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым комплексе 21 сакавіка адбыліся спаборніцтвы па настольным тэнісе. Праходзілі яны ў межах круглагадовай спартакіяды сярод калектываў.

Паміж мужчын перамог прадстаўнік Нарацкага сельсавета **Руслан Шафіеў**. У жанчын найлепш згуляла **Ала Роўда** з аддзела адукацыі, спорту і турызму.

У камандным залiку перамога за камандай аддзела адукацыі, спорту і турызму. На другім месцы – прадстаўнікі цэнтральнай раённай бальніцы, на трэцім – Мядзельскага ПМС. Пра гэта расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

### Нарачанкі выканалі разрады

МЯДЗЕЛ

Ад 24 да 26 сакавіка ў Чэрвеньскім раёне праходзіла першынство Мінскай вобласці па тэхніцы горна-пешаходнага турызму ў залах. У праграму спаборніцтваў ўваходзіла вязанне турыстычных вузлоў, пераадоленне розных перашкод з прымяненнем гэтых вузлоў.

За Мядзельскі раён выступала каманда Нарацкай СШ №1. У агульным залiку яна заняла чацвертае месца, расказала метадыст цэнтра турызму Мядзельскага раёна **Людміла Верабей**.

**Ганна Дамасевіч** выканала першы юнацкі разрад, а **Ганна Дзержавец** – другі.

### Упершыню спаборнічалі скалалазы

МЯДЗЕЛ

28 сакавіка на скаладромным трэнажоры ў Нарацкай сярэдняй школе №1 упершыню прайшло першынство Мядзельскага раёна па спартыўным скалалажанні. Удзельнічалі каманды вучняў з 10 устаноў адукацыі.

У камандным залiку на дыстанцыі боўлдэрынг перамагла каманда навучэнцаў Крывіцкага сада-школы. Другое месца – у Нарацкай СШ №1, трэцяе – у Свірскай СШ.

На дыстанцыі хуткасць лепшай была каманда Нарацкай СШ №1. На другім і трэцім месцах – адпаведна каманды Мядзельскага і Крывіцкага садоў-школ.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Плыўчыха ў ліку лепшых

МАЛАДЗЕЧНА

На Алімпійскіх днях моладзі, што праходзілі ў Пінску, маладзечанка **Марыя Бекіш** заняла другое месца на дыстанцыі 100 і 200 метраў на спіне. 14-гадовая Марыя тым самым здала нарматыў на кандыдата ў майстры спорту, – расказаў “РГ” дырэктар СДЮШАР прафсаюзаў **Віктар Мазнёў.**

Наталля ТУР.

● У ДАРОЗЕ

## У маі пройдзе велапаход па Гродзеншчыне

МАЛАДЗЕЧНА

**Ён адбудзецца 1-6 мая. За гэты час падарожнікі пераадолеюць каля 350 кіламетраў.**

Велапаход пачнецца 1 мая, у пятніцу, з Маладзечна. За гэты дзень падарожнікі пабудуць у вёсках Юрацішкі, Трабы, Сурвілішкі, Жамыслаўль, Ліпнішкі. Пабачаць вёску Суботнікі, якая ў XVII стагоддзі адносілася да Ашмянскага павета.

2 мая чакае падарожжа па горадзе Іўе. Гэты гарадок неафіцыйна лічаць сталіцай татараў Беларусі. Падарожнікі ўбачаць аграгарадок Усялюб, вёску Дзялячычы, мястэчка Любчы, аграгарадок Нягневічы, вёскі Шчорсы і Панямонь. Удзельнікі маюць унікальную магчымасць пераначаваць у былой уласнасці Радзівілаў, месцы графскага паляванне – графскай пушчы.

Падарожжа праз Карэлічы, Навагрудак, Наваельню, аграгарадок Дварэц і Дзятлава, вёску Дзямянаўцы чакае ўдзельнікаў 3 красавіка.

4 мая яны на свае вочы пабачаць Вялікую Волю, Дзярэчын, Слонім, Зэльву, Ваўкавыск, раку Рось.

5 мая падарожжа працягнецца па Свіслачы, вёсцы Гарбачы, мястэчках Вялікая Бераставіца, Вярэйкі, вёсках Рэпля, Рось, Волпа.

У апошні дзень падарожжа, 6 мая, шлях удзельнікаў пройдзе праз Масты, Ражанцы, Шчучын, Жалудок, станцыю Скрабаўцы. З Ліды да Маладзечна падарожнікі будуць вяртацца на дызельным цягніку.

Тэлефон для даведак **(8-029) 535-31-05.**

Воля ТРУБАЧ.

РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Казка пра чырвоную стужачку**" (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), Галіна Латышава, *Алег Чэчанеў*
16 красавіка, чацвер, – у 12:40

"**Парася, якое спявае**" (музычная казка-жарт у 2-х дзеях), *Сяргей Казлоў*
8 красавіка, серада, – у 11:00

"**ЦЫРК, ЦЫРК, ЦЫРК!**" (цыркавая клаўнада для дзяцей і дарослых у адной дзеі), *Мікіта Благаў*
22 красавіка, серада, – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Аблом OFF**" (лірычная камедыя ў 2-х дзеях), *Міхаіл Угараў*
3 красавіка, пятніца, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
8 красавіка, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
14 красавіка, аўторак, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
16 красавіка, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль, прысвячаецца 70-годдзю савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне)
17 красавіка, пятніца, – у 19:00

"**Маленькі свет...**" (жорсткая меладрама), *Алена Папова*
21 красавіка, аўторак, у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
22 красавіка, серада, – у 19:00

"**Бывай, канферансье!**" (спектакль-канцэрт), *Рыгор Горын*
24 красавіка, пятніца, – 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (спектакль-рэтра ў 2-х частках – фіналіст III рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва "Нацыянальная тэатральная прэмія"), *Ірына Пісьменная*
26 красавіка, нядзеля, – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
28 красавіка, аўторак, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль, прысвячаецца 70-годдзю савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне)
29 красавіка, серада, – у 14:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by
http://theatre-modt.by
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Кот у ботах**" (казка-прыгода, рус.), *Х.Янушэўская*
5 красавіка – у 12:00

"**Тры парсючкі**" (музычная казка, бел.), І.Сідарук
19 красавіка – у 12:00

"**Страшнік Гам**" (музычная казка, бел.), *П.Васючэнка*
26 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**
УНП 600136804

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | 5 | | | | | 1 | 9 |
| | 6 | | 4 | | | | 8 | 3 |
| | | | | 9 | | | | |
| | 7 | | 5 | | | | | |
| | 9 | 3 | 6 | | 2 | 1 | 7 | |
| | | | | | 9 | | 2 | |
| | | | | 5 | | | | |
| 3 | 2 | | | | 4 | | 5 | |
| 9 | 5 | | | | | 2 | | 8 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі "**Таямніца Сухаравай вежы. Чарадзей раўнавагі**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
3 красавіка – у 17:30
4 красавіка – у 13:00
5 красавіка – у 14:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Звярыны атрад**" (3D, Італія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
5 красавіка – у 12:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі "**Прывід**" (Расія, 2015, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
4 красавіка – у 14:50
5 красавіка – у 16:00
8 красавіка – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (Расія, Украіна, 2015, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3 красавіка – у 19:30
4 красавіка – у 17:10 (цана білета: 45 000 рублёў)
4 красавіка – у 22:00 (50 000 рублёў)
5, 7 красавіка – у 18:30
6 красавіка – у 21:00
8 красавіка – у 19:20 (цана білета: 45 000 рублёў)



**Кадр з фільма "Бітва за Севастопаль".**

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**", (Беларусь, 2015, з16 год)
3 красавіка – у 22:00
4 красавіка – у 19:30
5, 7 красавіка – у 21:00
6 красавіка – у 18:20
8 красавіка – у 21:40
Цана білета: 3 000 рублёў

Камедыя "**Жанчыны супраць мужчын**" (Расія, 2015, пасля 16 год)
3 красавіка – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
4 красавіка – у 19:30
5, 7 красавіка – у 21:00
6 красавіка – у 18:20
8 красавіка – у 21:40 (цана білета: 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Фэнтэзі, прыгоды "**Эні**" (ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
9 красавіка – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, прыгоды "**Фарсаж 7**" (3D, ЗША, Японія, 2015)
9 красавіка – у 19:20 (цана білета: 55 000 рублёў)
9 красавіка – у 22:00 (60 000 рублёў)

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, прыгоды "**Бабай**" (Украіна, 2014, без узроставых абмежаванняў)
3 красавіка – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Мультфільм "**Клуб Вінкс: Таямніца марской бездані**" (Італія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
4 красавіка – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Астэрыкс: Зямля багоў**" (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
5 красавіка – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, 2013, без узроставых абмежаванняў)
4 красавіка – у 16:30
5 красавіка – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фантастычны экшн-трылер "**Перавага**" (ЗША, Кітай, 2014, з 16 год)
1, 6 красавіка – у 21:30
2, 4, 9 красавіка – у 21:00
3, 8 красавіка – у 18:30
5 красавіка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Пампеі**" (Канада, 2014, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3 красавіка – у 21:00
4 красавіка – у 18:30
5 красавіка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма "**Белы Бог**" (Германія, Швецыя, Венгрыя, 2014, з 16 год)
7 красавіка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер, прыгоды "**Чорнае мора**" (Расія, ЗША, 2014, з 16 год)
7 красавіка – у 21:30
8 красавіка – у 21:00
9 красавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Дзяржаўная граніца. Афганская пастка**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3, 8, 9 красавіка – у 17:30
4 красавіка – у 17:00
5 красавіка – у 20:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Баявік "**Пампеі**" (Канада, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3 красавіка – у 20:00
4 красавіка – у 19:00
5 красавіка – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Пчолка Мая**" (Аўстралія, без узроставых абмежаванняў)
4 красавіка – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Анімацыя "**Чароўны лес**" (Францыя, без узроставых абмежаванняў)
5 красавіка – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Меладрама "**Абяцанне**" (Францыя, Бельгія, з 16 год)
8 красавіка – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастыка, драма "**Воблачны атлас**" (ЗША, з 16 год)
9 красавіка – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя "**Жанчыны супраць мужчын**" (2D, Расія, з 16 год)
3, 5, 8 красавіка – у 18:00
4 красавіка – у 20:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (2D, Расія, Украіна, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3, 5, 8 красавіка – у 20:30
4 красавіка – у 17:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі "**12 месяцаў. Новая казка**" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
4 красавіка – у 12:00
5 красавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі "**Чарадзеі раўнавагі. Таямніца Сухаравай вежы.**" (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
4 красавіка – у 14:00
5 красавіка – у 12:30
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі "**Прывід**" (2D, Расія)
4 красавіка – у 15:30
5 красавіка – у 16:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Баявік, трылер "**Фарсаж 7**" (3D, ЗША, Японія, з 16 год)
9 красавіка – у 18:30, 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
3-9 КРАСАВІКА

**Авен.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**Цялец.** Ваш добры настрой станоўча паўплывае на работу і ўсе справы. Вы, акрамя маральнага задавальнення, атрымаеце яшчэ і прыбытак. З'явіцца чалавек, які так даўно чакаў з вамі сустрэчы. Пагаджайцеся, новае знаёмства прынясе толькі радасць.

**Блізняты.** Бярыцеся за складаныя задачы і верце ў тое, што ўсе цяжкасці ўдасца пераадолець. Рабіце тое, што вам падабаецца, і не бойцеся гаварыць "не" нават блізкім людзям.

**Рак.** Дзверы новых магчымасцяў зноў шырока адчыненыя перад вамі. Трэба толькі дачакацца адпаведнага моманту, які, дарэчы, можа здавацца на першы погляд зусім выпадковым.

**Леў.** Жыццё мяняецца, і не трэба гэтаму супраціўляцца. Не бойцеся змяненняў, плывіце ў патоку і ўспрымайце жыццё як прыгоды.

**Дзева.** Памылкі, якія людзі лічаць памылкамі, часта зусім такімі і не з'яўляюцца.

**Шалі.** Не бойцеся быць шчаслівымі. І няхай сабе навакольныя коса глядзяць на вашу не да месца ўсмешку. Калі вы задаволеныя і шчаслівыя, свет вакол вас пачынае мяняцца ад вашага пазітыўнага настрою. Вас нічога не будзе засмучаць.

**Скарпіён.** Не звяртайце ўвагу на некаторыя дзівацтвы ў паводзінах вашых знаёмых. Вы таксама не заўсёды ўсё робіце лагічна. Трэба прымаць людзей такімі, якія яны ёсць.

**Стралец.** Перастаньце ўвесь час думаць пра сэнс жыцця, проста пачніце атрымліваць асалоду ад гэтага жыцця.

**Казярог.** Жыццё такое, якое яно ёсць. У ім ёсць усё. І вясёлае, і сумнае. І яркае, і цьмянае. Толькі пытанне ў тым, якія лінзы ты надзяваеш, калі разглядваеш тое, што вакол.

**Вадалей.** І за наш настрой, і за стан душы, і за змест нашых думак адказваем толькі мы самі. Няма вакол вінаватых. Усё самі!

**Рыбы.** Вучыцца быць шчаслівым нам даводзіцца ў свядомым узросце, калі так складана даюцца любыя навукі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

### 4 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 | | +2 | | +1 | | +1 | |
| | +1 | | +5 | | +5 | | +5 | |
| | 730 | ↘ 4 | 733 | ↘ 5 | 739 | ↘ 6 | 744 | ↘ 4 |
| Вільня | +1 | | +1 | | +1 | | +1 | |
| | +4 | | +4 | | +4 | | +4 | |
| | 740 | ↘ 6 | 742 | ↘ 4 | 748 | ↘ 4 | 753 | → 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.36
Захад 19.54
Даўжыня дня 13.18

Усход 19.59
Захад 6.39
Квадра 3




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

- Мінімальная тэмпература –11.1 °С у 1965 годзе
- Максімальная тэмпература +19.8 °С у 1990 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 6.2 мм у 1994 годзе

Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

# Да якога часу павінны працаваць начныя клубы?



**Вадзім Бабей, вадзіцель, Маладзечна:**
– Я лічу, што да чатырох гадзін раніцы. Таму што летам дадому ўжо светла ісці.



**Юлія Рамановіч, ветэрынарны фельчар, Маладзечна:**
– Я сама па клубах не хаджу, таму лічу, што дастаткова да гадзіны ночы. Мне здаецца, да гэтага часу нагуляцца можна.



**Аляксандр Радчанка, тэхнолаг, Ашмяны:**
– Клубы павінны працаваць да гадзіны ночы ў будныя дні і да сямі раніцы – у выхадныя. Людзі тыдзень працавалі. Маюць яны права расслабіцца?



**Дзяніс Астрэлін, электрык, Вілейка:**
– Як мне здаецца, чым даўжэй працуюць такія ўстановы, тым менш людзей распівае спіртныя напоі на вуліцах. Таму абмяжоўваць працу клубаў няправільна.



**Тамара Севасцей, пенсіянерка, Смаргонь:**
– Мяркую, што да двух гадзін ночы цалкам дастаткова. Туды ж моладзь ходзіць, нашто ім да раніцы невядома дзе знаходзіцца?

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Плыўчыха Аляксандра Герасіменя, віцэ-чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў, на гэтым тыдні стала чэмпіёнкай Іспаніі. Падрабязнае і шчырае інтэрв'ю з "залатой рыбкай" чытайце ў наступным нумары "РГ".**



**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 14 (1040) 3.04.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 436. Падпісана ў друк у 9.00 2.04.2015.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.